 




# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (403) | ГОД VIII | 17 ЛІСТАПАДА 1963 г. | ЦАНА 60 ГР


## ПАРТЫЯ — НАТХНЕННЕМ

**17 лістапада г.г. адбудзецца Пленум ГП БГКТ, прысвечаны дзейнасці БГКТ у святле рашэнняў XIII пленум ЦК ПАРП.**

**Пленум мае асаблівае значэнне для нашай арганізацыі. Ставяцца ж пытанні ідэалагічнага фронта, ад правільнага вырашэння якіх залежыць паспяховасць усёй нашай працы.**

**Важнасць і значэнне ідэалогіі ў нашым сучасным жыцці дасканала паказала нам наша Партыя. Тавaрыш Гамулка на XIII Пленум гаварыў: «Інтэгральнай часткай пабудовы сацыялізма, неразлучна звязанай са стварэннем матэрыяльна-тэхнічнай базы новага ладу, з'яўляецца фармаванне свядомасці грамадства ў духу сацыялізма, што абазначае распаўсюджванне марксісцка - ленінскай ідэалогіі і сацыялістычных этычна - маральных прынцыпаў у міжлюдскіх адносінах, прывіванне новых адносін да дзяржавы, працы і грамадскай уласнасці, а таксама фармаванне новага, сацыялістычнага аблічча нацыянальнай культуры».**

**Гэтыя ўказанні Партыі павінны быць для нас пуцяводнай зоркай. Заданні вялікія і адказныя. У іх неабмежаванае месца і для нашай дзейнасці.**

**Пастановы XIII Пленума ЦК ПАРП знайшлі шырокі водгук у нашым грамадстве. Аб гэтым сведчыць, між іншым, дыскусія, якая вядзецца на старонках «Нівы». Значыць, Партыя падняла вельмі актуальныя пытанні. Значыць, гэтыя пытанні патрабуюць і ад нас, як аднаго са звенняў Фронта адзінства народа, як найбольшай актыўнасці і выпрацавання новых форм працы ў ажыццяўленні высакародных заданняў пабудовы новага сацыялістычнага грамадства.**

**Удзельнікам Пленума жадаем плённай працы, са свайго боку абяцаем пакласці ўсе сілы і намаганні ў рэалізацыі жыццядайных пастаноў нашай Партыі.**

## Не забывайце аб гуртках

**ГАВОРЫЦЬ РЫГОР СЕМЯНЮК — ЧЛЕН ПРАЎЛЕННЯ ГУРТКА БГКТ У РАЙКАХ**

Да дыскутантаў у «Ніве» аб паляпшэнні дзейнасці і ўплыве Беларускага таварыства я таксама хачу далучыцца. Хачу сказаць аб працы гуртка БГКТ у Райках. Наш гурток мае пэўныя дасягненні. Дзякуючы яму ў вёсцы пабудавана святліца. Члены гуртка прымаюць актыўны ўдзел у аматарскім драмгуртку. П'еса «Жыць на гэтым свеце» выхаваўчая, добрая. Але з п'есай мы выступалі некалькі разоў і на гэтым усё скончылася. Я неаднойчы бываў у Бельску і заходзіў да нашага аддзела. Але што з гэтага? Пераважна было замкнута. Да нас ані інструктар ані актывісты аддзела не заглядаюць. Праўда, раз у год хто-небудзь пакажацца, зробіць сход толькі таму, каб «сцягнуць» складчыну. І вось гэта найгоршае. Ніхто да нас не прыедзе так на рабоча, па-сяброўску пагаварыць. Ніхто не скажа аб

(Працяг на стар. 3)



Вера Рышчук з калектыва мастацкай самадзейнасці ў Рагачах, Сямяціцкі павет, за характарызацыяй перад чарговым выступленнем гуртка.
Фота ТАЧ

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ДАСЯГНЕННІ І НЕДАХОПЫ

На старонках «Нівы» разгарнулася дыскусія, мэтай якой з'яўляецца пашырэнне метадаў і форм нашай ідэалагічнай працы ў беларускім асяроддзі.

Хачу звярнуць увагу на важную форму ўплыву БГКТ — дзейнасць беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

Наша літаратурная дзейнасць запачаткавалася з выхадам першага нумару «Нівы». «Ніва» стала трыбунай нашых пачынаючых літаратараў. На старонках «Нівы» паявіліся творы, жыўцом узятыя з жыцця беларускай вёскі, аўтарамі якіх з'яўляліся А. Сошка і Ул. Гайдук. Кінутыя ў літаратурную глебу зярняты ўзышлі ў выглядзе зборніка паэзіі «Рунь», у якім былі змешчаны творы 17 аўтараў. Далейшы плён нашага літаратурнага асяроддзя — гэта зборнік паэзіі А. Барскага «Белавежскія матывы», зборнік вершаў і апавяданняў для школьнай моладзі «Мой родны кут», літаратурныя часткі ў штогод выдаваемых ГП БГКТ беларускіх календарах і літаратурныя творы, змешчаныя ў 59 літстаронках у «Ніве».

Дасягненні несумненныя. Наша друкаванае мастацкае слова разыходзіцца шырока сярод чытачоў і карыстаецца вялікім поспехам. Яшчэ большым поспехам карыстаецца жывое мастацкае слова ў выглядзе аўтарскіх сустрэч, наладжзаемых Таварыствам. Аўтарскіх сустрэч адбылося дагэтуль некалькі сот. Далейшае запатрабаванне насельніцтва на таго роду сустрэчы сведчыць аб здабытай папулярнасці нашай творчай арганізацыі і адначасова аб яе вялікім уплыве на грамадства. На жаль, нашы аўтарскія сустрэчы з'яўляюцца аднабаковымі. Удзельнічаюць у іх пераважна два аўтары — А. Барскі і В. Швед. Адчуваюць сябе пакрыўджанымі такія здольныя нашы паэты, як Я. Бурш, А. Свісёк і Я. Чыквін. Тым больш, што Я. Бурш і А. Свісёк не з'яўляюцца выхадцамі з Беласточчыны і бліжэйшае азнаямленне з беларускім асяроддзем напэўна мела б вялікі дадатні ўплыў на літаратурную творчасць нашых паэтаў, на пашырэнне тэматыкі іх твораў.

«Чытачы і гледачы, — сказаў тав. Гамулка на XIII Пленум ПАРП, — чакаюць ад нашых пісьменнікаў добрых і разнастайных твораў, але найбольш аднак такіх, у якіх дзеянне адбываецца не дзесьці ў свеце, а ў першую чаргу ў Польшчы, героямі якіх не з'яўляюцца манекены ці выродлівыя фігуры, прадукты хворай фантазіі, а жывыя з крыві і косці — людзі працы».

(Працяг на стар. 3)

## Сяляне сучаснасці

На тэрыторыі грамады Юшкаў Груд, у Беластоцкім павеце, ёсць 18 вёсак і 635 гаспадароў. Некалькі год таму назад аколіца гэтая нічым спецыяльна не выдзялялася. Гаспадаркі ў большасці малазямельныя. Ад горада далёка. Падзарабіць па-за гаспадаркай не было дзе. Хіба што, калі хто адважыўся, паехаць у Элцкі, Алецкі ці Галдапскі паветы. Але гэта былі адзінкі. Гаспадаркі, хоць і невялікія, але хапала на іх працы круглы год. Метады апрацоўкі зямлі на працягу апошніх 50 год тут амаль не змяняліся. Аралі коньмі, сеялі ўручную, жалі сярпамі і малацілі цапамі. А калі спатрэбілася змалоць, дык многія выручаліся тут традыцыйнымі жорнамі, хаця млын быў пад бокам.

Так было яшчэ некалькі год таму назад. Відавочныя змены пачаліся з таго часу, як пачалі арганізоўваць сельгасгурткі. У грамадзе Юшкаў Груд ёсць толькі 3 сельскагаспадарчыя гурткі. Але яны ахопліваюць усіх 635 гаспадароў, большасць якіх з'яўляюцца раўнапраўнымі членамі гуртка.

На тэму механізацыі гутарым са старшынёй прэзідыума ГРН у Юшкавым Грудзе Мікалаем Міруцем.

— Зараз на тэрыторыі нашай грамады, — кажа старшыня, — працуе 4 трактары з поўнымі камплектамі сельгасмашын. Большую частку ворыва сёлета выканалі трактарамі. Запатрабаванне на працу трактара ўсё ўзрастае. Таму праўленне сельгасгуртка ў Багнюках пастанавіла закупіць трэці трактар.

— Трактары ў нас не застойваюцца, — дадае сакратар прэзідыума Мікола Багнюк. — Заканчацца палявыя работы, дык мы іх накіроўваем да мясцовага транспарту. Напрыклад, да звозкі камення пры будове дарогі Міхалова — Ялоўка. Гэта карысна і падзарабіць можна нядрэнна.

(Працяг на стар. 5)



**Яшчэ адзін прыклад, як важную ролю ў нашым жыцці адыгрывае лес. Пакуль мароз не скаваў зямлі, сяляне вязуць з лесу ігліцу, каб зрабіць з яе прызбы. Тады зімою будзе цяплей, і менш трэба дроў на абаграванне хат.**
**Фота Паўлючук**

 

 

# У саракагоддзе КПЗБ

У Інстытуце гісторыі партыі пры Цэнтральным Камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Варшаве адбылася сустрэча былых заходнебеларускіх камуністычных дзеячоў, прысвечаная саракавой гадавіне з дня ўтварэння КПЗБ. Прыбыла таксама дэлегацыя з Беларусі — вядомыя дзеячы КПЗБ Сяргей Прытыцкі, Мікалай Арэхва, а таксама дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры Цэнтральным Камітэце Камуністычнай партыі Беларусі Ніна Каменская і інш.

Аляксандр Завадскі і Стэфан Ендрыхоўскі, як былыя дзеячы КПЗБ, перадалі сардэчныя прывітанні ўдзельнікам сустрэчы.

— У барацьбе з капіталізмам мы, беларусы, палякі, украінцы, яўрэі дзяліліся апошняй скарынкаю хлеба. Цяпер мы ўсе разам, у непарушнай дружбе, будуем сацыялізм і камунізм у нашых краінах, — сказаў м. ін. С. Прытыцкі.

Гэта сустрэча мела не толькі юбілейны характар. З'яўляецца яна штуршком для даследаў гісторыкаў над устанаўленнем праўды аб камуністычным руху ў часы санацыйнай Польшчы. Нам, беластачанам, цікава, што звернута тут увага на Музей рэвалюцыйнага руху, які незадоўга будзе ўтвораны ў Беластоку. Несумненна, знойдуць у ім месца многія новаадкрытыя дакументы, якія датычаць дзейнасці КПЗБ у нашых вёсках і гарадах, а таксама дзейнасці «Грамады». Трэба ведаць, што ў той час не было нідзе ў Еўропе такога магутнага сялянскага рэвалюцыйнага руху, які б перавышаў сваёй сілай і размахам «Грамаду». (а-ся)



# СУСТРЭЧА З ВЕТЭРАНАМІ КАСТРЫЧНІКА

## З жыцця БГКТ

У сувязі з 46-ай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, Галоўнае Праўленне БГКТ наладзіла 3 лістапада ў сваім памяшканні сустрэчу са старымі ўдзельнікамі гэтых векапомных дзён. Прыехалі ветэраны Кастрычніка з Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў, прыйшлі з горада Беластока. Прысутнічалі таксама прадстаўнікі Савецкай вайсковай часці.

У вельмі цёплай і сардэчнай атмасферы прысутныя прыселі за сталом, над кубкам чорнай кавы. Пачаліся незабыўныя ўспаміны.

Вайна закінула Ісаака Данілеўскага, жыхара гайнаўскай вёскі Новакорніна, аж на далёкі Урал. На пачатку рэвалюцыі ён уступае ў рады Чырвонай Арміі.

Хто ж з нас не чытаў, не захапляўся кніжкай аб легендарным савецкім палкаводцы Чапаеве? Ісаак Данілеўскі прайшоў увесь гераічны шлях менавіта ў 25-ай стралковай дывізіі імя Чапаева. Працуючы сувязным у штабе дывізіі, ён часта асабіста сустракаўся і гутарыў з Чапаевым, Фурманавым і другімі камандзірамі дывізіі. Быў нават сведкам смерці Чапаева на рацэ Урал.

Вельмі цікава расказвалі аб сваім удзеле ў рэвалюцыі жыхар вёскі Азяблы ў Беластоцкім павеце, былы чэкіст Павел Храноўскі; жыхар вёскі Новаберазова ў Гайнаўскім павеце, былы старшыня палкавога камітэта і камісар палка Іван Калыбко; жыхар Беластока, удзельнік рэвалюцыі ў самым Петраградзе Васіль Ляшчынскі і другія ветэраны.

Сардэчная размова і ўспаміны працягнуліся да позніх гадзін вечара. Госці пабывалі таксама на выступленні гуртка мастацкай самадзейнасці Рускага культурна - асветнага таварыства ў Варшаве, які даў канцэрт у памяшканні БГКТ.

в.б.

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## ОЙ, ВЫЙШЛА МАЦІ

Ой, выйшла маці, ой, выйшла маці
Із новае хаты
На вячэраньку зваці.

— Ой, вячэрай, ой, вячэрай, маці,
Калі наварыла,
Калі ты наварыла,

Бо ўжо мне, бо ўжо мне такому,
Хлопцу маладому,
Вячэранька няміла.

Толькі мне, толькі мне такому
Хлопцу маладому
Дзяўчынанька міла.

Развялі людзі, развялі людзі
Блізкія суседзі.
Нам у пары не быці.

## Барабаны б'юць

Барабаны б'юць
Громка выбіваюць,
Маладых рабят
Да войска прымаюць.

Па багатаму сыну
Ўся радзіна плача,
А па сіраціне
Чорны воран крача.

Ой, Божа мой, Божа
На што я радзіўся,
Памёр бацька, маці
А я не жаніўся.

Запісаў **Павел Грыгарук**, вуч. XI кл. Бел. ліцэя ў Бельску, ад цёткі.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ДАСЯГНЕННІ І НЕДАХОПЫ

(Працяг са стар. 1)

Вось гэтыя словы павінен узяць пад развагу кожны творца жывога слова. Датычаць яны таксама і нашага літаратурнага асяроддзя. Неяк мы ў сваёй творчасці ўсё яшчэ вельмі рэдка выкарыстоўваем сучасную праблематыку, штодзённае жыццё беларускага асяроддзя, жыццё нашай краіны. Усё яшчэ жывем учарашнім днём, часта сягаем і ў далёкае мінулае. Не маю намеру пераконваць членаў літаб'яднання, што яны не павінны ў сваёй творчасці выкарыстоўваць гістарычную тэматыку. Гэта, безумоўна, патрэбнае. Нельга таксама сцвярджаць, што ў нас няма твораў з сучаснай праблематыкай. Трэба аднак нам асаблівую ўвагу звярнуць на праблемы, якімі жыве сённяшняе грамадства. Трэба нам, як сцвярджаюць дыскутанты, — прыйсці з дапамогай аматарскаму мастацкаму руху. Нашыя драмгурткі маюць бедны рэпертуар, часта пазбаўлены выхаваўчых элементаў, не звязаны з сучаснымі праблемамі нашага жыцця. Папаўненне рэпертуару самадзейных мастацкіх калектываў творамі мясцовых аўтараў мела ў першую чаргу на ўвазе Праўленне Літаб'яднання, арганізуючы разам з ГП БГКТ літаратурны конкурс на тэму: «Сучасная беларуская вёска». На конкурс уплыло ўжо некалькі твораў, у тым ліку адзін сцэнічны. Конкурс працягваецца да канца лістапада г.г. На падставе папярэдняга конкурса на творчасць для дзяцей, на які ўплыло 70 твораў, можам меркаваць, што наш бягучы конкурс таксама будзе плённы.

В. ШВЕД

# Не забывайце аб гуртках

(Працяг са стар. 1)

нашых заданнях, ніхто не заахвоціць да якіх-небудзь мерапрыемстваў або карысных пачынанняў.

Мяне ў аддзеле залічваюць да актывістаў. Я асабіста хачу ім быць, хачу па меры сваёй магчымасці дапамагчы нашай беларускай арганізацыі. Я нават выязджаў у суседнюю вёску, арганізаваў гурткі БГКТ. І тут асабіста я, а напэўна і іншыя, адчуваюць недахоп акрэсленага настаўлення, недахоп матэрыялаў, з якіх мы, актывісты, маглі б карыстаць, маглі б прачытаць, і гэтае прачытанае ўвязаць да канкрэтных умоў вёскі і выступіць на сходзе. Актыў без прапагандовага матэрыялу — бясплодны актыў, не дае ён карысці.

Нядаўна я быў на семінары для нацыянальных меншасцей у Галдапі. Шчыра скажу, я там многа навучыўся. Дырэктар Дэпартамента Міністэрства Культуры тав. Калужны надзвычай разумна і цікава гаварыў аб працы ў нацыянальных асяроддзях. Каб у такіх семінарах прымалі ўдзел усе актывісты Бельскага аддзела, напэўна не быў бы ён такі вялы, як цяпер. Па-мойму, нядрэнна было б, каб у павеце або ў Беластоку былі арганізаваныя курсы для актыву БГКТ, каб для гэтага актыву давалі свежыя звесткі аб нашым таварыстве, каб перад ім ставіліся акрэсленныя заданні.

У дыскусійных артыкулах у «Ніве» ўспамінаецца аб супрацоўніцтве гурткоў БГКТ з усімі мясцовымі палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі. Гэта вельмі важна. Трэба сказаць, што і ў нас няма належнага супрацоўніцтва гуртка БГКТ з іншымі арганізацыямі. Зрэшты, мала дзе аб гэтым і гаварылася. Думаю, што мы яго наладзім. І яно дапаможа нам у працы.

Хачу я звярнуць увагу яшчэ на адну справу. Чаму ў нас гаворыцца аб паляпшэнні працы БГКТ толькі перад пленумам або з'ездам? Чаму такая нейкая акцыйнасць? Такія звычаі неабходна выжываць з нашай дзейнасці.

Запісаў гутарку М. Х.

яшчэ не бачыла гісторыя! — сказаў Гітлер, рассякаючы рукой паветра.

Некалькі секунд Гітлер тупа глядзеў проста перад сабой, і губы яго нервова трасліся.

— Я веру ў вас, Канарыс, — змучана сказаў ён і сеў у крэсла.

— Дзякую, мой фюрэр, — сказаў Канарыс і, адступаючы выйшаў з кабінета.

У апошні месяц перад пачаткам вайны супраць Савецкага Саюза ў гітлераўскім генеральным штабе амаль штодзённа праводзіліся гэтак званыя кантрольныя нарады, на якіх правяралася гатоўнасць войск па паасобных дэталях плана «Барбароса».

Канарыс прысутнічаў не на ўсіх гэтых нарадах. Атрымаўшы чарговае запрашэнне, ён даручаў каму-небудзь са сваіх генералаў пазваніць ад яго імя начальніку штаба Гальдэру і даведацца, ці абавязкова павінен прысутнічаць начальнік абвера. Найчасцей быў адказ: «Калі ў адмірала знойдзецца час, я рады буду яго бачыць». Гэта значыла: можна не ісці... Канарыс наогул не любіў бываць сярод генералітэту. Замнога ён ведаў аб некаторых генералах такога, што не мог не раздражняцца, бачачы іх крывадушнае падхалімства перад Гітлерам.

Гэтым разам сам Гальдэр пазваніў Канарысу і папрасіў абавязкова прысутнічаць на сённяшняй нарадзе.

Канарыс здагадаўся, навошта ён спатрэбіўся. Генералы хочуць, каб абвер палажыў ім на стол даныя, як і дзе без баёў і рызыкі даехаць да Масквы. Іх яўна не задавальняе яго мемарандум Гітлеру ад

18

1 сакавіка 1941 года. У Канарыса былі неафіцыйныя звесткі, што некаторыя генералы сумняваюцца ў верагоднасці даных мемарандума аб рускіх пагранічных умацаваннях і аб магчымасцях савецкага чыгуначнага транспарта. Не задаволены яны і раздзелам мемарандума аб камандным складзе Чырвонай Арміі. У Францыі абверу былі вядомы абсалютна ўсе камандзіры палкоў, а ў Расіі ён не змог удакладніць нават усіх камандуючых арміямі.

Словам, Канарыс разумеў, што ў генералаў ёсць дастаткова прэтэнзіі адносна даных ваеннай разведкі рускага плацдарма, але адмірал ужо ведаў, як ён усіх іх паставіць на месца...

Нарада проста з гэтага і пачалася — з крытычных заўваг па галоўнаму мемарандуму абвера.

Выслухаўшы генералаў, Канарыс сказаў: «Зразумела, усім вам хочацца ведаць аб праціўніку як найбольш, але ёсць, аднак, аб'ектыўна існуючы рубеж магчымасцей разведкі і адпаведны павінен быць рубеж патрабавальнасці ад нас. Прыклад паказвае фюрэр. На мемарандуме ён напісаў рэзалюцыю. У ёй усяго тры словы: «Цудоўная, абнадзейваючая карціна...»

Гальдэр зразумеў, чым пагражае створаная сітуацыя, і сказаў прымірыцельна, што ніхто тут мемарандум не дэзавуіруе і гутарка ідзе толькі аб паасобных дэталях.

Канарыс, не павышаючы голасу і не спяшаючыся, верны сваёй, быццам соннай, манеры, сказаў:

— Я не бачу ніякай разніцы ў тым, ці сказаць, што мемарандум непрыгодны цалкам, ці сказаць

19

тое самае аб кожнай яго старонцы паасобна. Далей. Я чамусьці не бачу ў вас у руках дадатковых сшыткаў: сіняга, зялёнага і чорнага, у якіх мы далі ўдакладненыя і новыя даныя. — Канарыс дасканала ведаў, дзе гэтыя сшыткі: яны ляжалі ў сейфе ў Гітлера, і ён іх проста не захацеў чытаць, сказаўшы, што мемарандум яго цалкам задавальняе...

Нарада адразу закрылася, і Канарыс яшчэ раз упэўніўся, што сёння адзіным заданнем нарады было даць бой абверу. Ні з кім не развітаўшыся, ён пакінуў залу і паехаў да сябе. Ён лютаваў: дурні! Але ён не хлопчык, якога лёгка паставіць у кут...

Сённяшняя нарада прымусіла адмірала вярнуцца да роздумаў, якім апошні час ён удзяляў нямала часу. Яго трывожыла думка аб тым, як будзе выглядаць абвер і ён, Канарыс, калі пачнецца рускі паход і калі, не дай Бог, ён разгорнецца не так паспяхова, як разлічвае фюрэр. Гітлер бязлітасна распраўляецца з тымі, каго ён выбірае ў якасці віноўнікаў няўдач. У час вялікай вайны сварыцца з генералітэтам Гітлер не адважыцца. Ён будзе шукаць вінаватых у іншым месцы. І абвер можа аказацца тым самым месцам тым больш, што будзе вельмі лагічным абвінаваціць у няўдачах разведку, якая, маўляў, не забяспечыла армію дакладнай інфармацыяй і прымусіла яе біцца ўсляпую...

Трэба пры любых абставінах застрахавацца сябе ад непрыемнасцей. Так нарадзіўся загад аб стварэнні на цэнтральным напрамку фронта спецыяльнага разведвальнага цэнтра пад назвай «Сатурн».

20



 

# ГРАШАК З ГРАШАКОМ

Мінуў месяц кастрычнік, у час якога адбываецца штогадовы вялікі кастрычніцкі конкурс ПКО. Не будзем распісвацца пра каштоўныя ўзнагароды — купоны матэрыялаў, апараты, легкавыя аўтамашыны, — прызначаныя для ўдзельнікаў успомненага конкурса.

Папулярызацыя ашчаднай кніжачкі ПКО на тэрыторыі Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў набывае размаху. Зразумела, вялікая ў гэтым заслуга працаўнікоў пошт і іх начальнікаў. Напрыклад, начальнік пошты ў Старакорніне на працягу 1962 года выставіў 172 кніжачкі ПКО на суму 272 тысячы злотых, здабываючы першае месца па прапагандзе ашчаднасці. Не меншыя дасягненні на гэтай пошце адзначаны і ў бягучым годзе. Добрымі вынікамі можа пахваліцца таксама пошта ў Рыбалах, дзе ў канцы мінулага месяца аказалася шмат новых энтузіястаў кніжачак ПКО. Сума агульных ашчаднасцей перавышае тут чатырыста тысяч злотых. Не меншымі дасягненнямі ганарацца пошты ў Кляшчэлях, Орле, Белавежы.

На тэрыторыі Бельскага павета толькі за мінулы месяц выпісана каля пяцісот новых кніжачак ПКО, а сума ашчаднасцей перавысіла сем мільёнаў злотых.

У прывіванні людзям карысных звычак добрагаспадарнасці асаблівая ўвага належыцца школьнай моладзі, нашаму падрастаючаму пакаленню. Сярод школьных ашчадных кас — СКО — праводзіцца алімпіяда ашчадных. Няцяжкі гэта конкурс. Хопіць крыху цярплівасці і штомесяц укласці адвольную суму грошай. Кожны вучань — удзельнік алімпіяды мае магчымасць у канцы года зрабіць патрэбную закупку або ўзяць удзел у цікавай экскурсіі, прыемным правядзенні канікул. Апрача таго, адбываюцца конкурсы з вартаснымі ўзнагародамі. На працягу навучальнага года адбудзецца два разы лясаванне ўзнагарод у Бельскім аддзеле ПКО: першае — 10 студзеня, і другі раз 10 мая 1964 г. Агульная вартасць гэтых узнагарод складзе суму 449 тысяч злотых.

Да ліку найлепшых школьных ашчадных кас трэба аднесці СКО ў Семяноўцы, Гацьках, Новаберазове, Ляўках, Дзянісках, Беларускім і Педагагічным ліцэях у Бельску і інш. Апякун СКО пры Педагагічным ліцэі ў Бельску гр. Федарук атрымаў залатую адзнаку СКО і 3 тыс зл. узнагароды, а апекуны СКО ў Ляўках і Гацьках узнагароджаны сярэбранымі адзнакамі і па тысячы злотых грашовых прэмій.

У сувязі з Днём Настаўніка будуць адзначаны другія актыўныя апекуны СКО.

**М. Сералынскі** — кіраўнік аддзела ПКО ў Бельску

(а-ся)

# РАМІЗА ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Задумалі ў Белавежы будаваць рамізу — прасторную, мураваную, у якой знайшлі б сховішча не толькі супрацьпажарныя прылады, але дзе можна было б сабрацца на сход, пачытаць часопісы, а калі нагода, дык пагуляць уволю. Абмеркавалі справу на сходах. Наладзілі адну — другую, ды і трэцюю патанцоўкі.Назбіралася крыху грошай. Далажыў, што мог, прэзідыум ГРН. Можна было купіць ужо нейкую колькасць цэменту і шлаку (жужалю). А калі ёсць цэмент і шлак, можна рабіць пустакі. Разбегліся члены пажарнай каманды па пасёлку склікаць людзей. Мясцовыя ўстановы — Рамонтна-будаўляная станцыя і Надлясніцтва «Звярынец» — пазычылі бясплатна самаходы.

Ян Бушко — чалавек, аб якім гавораць: майстар на ўсе рукі, за што ні возьмецца, усё зробіць. Стварыў ён сяміасабовую брыгаду, і яна дружна прыступіла да працы. Зразумела, працавала не толькі адна брыгада Бушко. Як аблічвае старшыня прэзідыума ГРН Мікалай Сядун, у сценах рамізы разам з цэментам перамяшаліся пот, самаадданасць і ахвота каля 200 жыхароў Белавежы. Прыходзілі працаваць не адзін і не два разы. Працавалі шчыра. Спачатку зрабілі каля 10 тысяч пустакоў, а 10 верасня мінулага года палажылі першы камень на фундамент сваёй рамізы. Да зімы сцены былі гатовы. Аставалася зрабіць дах, пакрыць яго чарапіцай ды пабудаваць вартаўнічую вежу. На гэта аднак нехапіла ўжо грошай.

Знайшліся грошы. Прэзідыум ГРН у Белавежы на будову рамізы атрымаў 585 тысяч зл., у тым ліку 120 тысяч з ПЗУ. Столькі, менавіта, паводле плану, павінна было каштаваць і абсталяванне. Белавежцы абышліся сумай 320 тысяч злотых. Рэшта — гэта іх праца грамадскім чынам. Вось прыклад, як трэба эканоміць дзяржаўныя грошы!

Праца адразу пайшла шпарчэй. Янка Бушко перадаў сваю брыгаду Яну Валкавыцкаму, а сам пайшоў на курс вучыцца на шафёра. Цяпер у белавежскіх пажарнікаў не толькі ўласная новенькая пажарная машына, што стаіць у новенькай уласнай рамізе, але таксама свой шафёр — пажарнік.

Тысячы людзей, якіх штогод маніць белавежская пушча, будуць праязджаць побач пажарнай рамізы. Ці хто падумае аб тым, колькі мазалёў набілі сабе жыхары Белавежы пры яе пабудове, колькі спатрэбілася энергіі, працы і арганізацыйнай упартасці, каб давясці справу да канца ў такі кароткі тэрмін?

**В. РУДЧЫК**

# SVEIKAS ZDRAUGAS

Сэйны — павет невялікі. Пражывае тут каля 21 тысячы насельніцтва.

Маляўнічы краявід, прыгожыя лясы і жамчужыны тутэйшага хараства — азёры надаюць павету курортны характар.

Мяне Сэйнэньскі павет цікавіў зусім з другога боку. Тут пражывае літоўская нацыянальная меншасць. Тут дзейнічае Літоўскае грамадска - культурнае таварыства з сядзібай Галоўнага праўлення ў Сэйнах. Менавіта яно з'яўляецца маторам культурна-асветнай дзейнасці сярод літоўскай нацыянальнай меншасці.

У Галоўным праўленні таварыства прынялі мяне надзвычай ветліва.

— Маем столькі супольнага, — гаварыў сакратар Галоўнага праўлення ЛГКТ таварыш Хмялеўскі. — Жывем жа на тэрыторыі аднаго ваяводства. На жаль, зусім мала ведаем адны аб другіх. Няма адпаведнага супрацоўніцтва паміж нашымі таварыствамі. А яно ж было б толькі на карысць як нам, літоўцам, так і вам, беларусам.



**Дзявочая група гуртка мастацкай самадзейнасці ў Пуньску ў сваіх нацыянальных уборах.**

Нельга было не згадзіцца з таварышам Хмялеўскім. Сапраўды, мала ведаем аб жыцці літоўцаў.

У Сэйнэньскім і часткова Сувальскім паветах дзейнічаюць 43 гурткі Літоўскага грамадска - культурнага таварыства. У іх налічваецца каля 1130 членаў. Месцам найбольш развітай дзейнасці таварыства з'яўляецца Пуньск. Тут існуе Літоўскі дом культуры, агульнаадукацыйны ліцэй з літоўскай мовай навучання (ён падрыхтоўвае настаўнікаў да працы ў літоўскіх пачатковых школах) і вельмі актыўны калектыў мастацкай самадзейнасці. Ды і наогул рух мастацкай самадзейнасці сярод літоўцаў развіваецца нядрэнна. Тут існуе 18 гутркоў мастацкай самадзейнасці, якія выступаюць перад насельніцтвам з пастаноўкамі п'ес, народнымі танцамі і песнямі. Тэхнічныя ўмовы мастацкага руху, так як і ў нас, не надзвычайныя. Мала яшчэ святліц з адпаведнымі сцэнамі. Школы таксама далёка не ўсе прыстасаваны да гэтага. Але літоўцы патрапяць знайсці выхад. Папулярным месцам канцэртаў мастацкай самадзейнасці сталі тут сялянскія стадолы. А яны ў літоўцаў велізарныя і належна ўтрыманыя. Нават папулярная ў нас (у літоўцаў таксама) «Лявоніха», якая пабывала тут з канцэртамі, паспяхова выступала менавіта ў стадолах.

На тэрыторыі павета існуе 9 пачатковых школ з літоўскай мовай навучання і 10 школ, у якіх выкладаецца літоўская мова як прадмет.

Апрача гэтага літоўская мова з'яўляецца выкладовай ва ўспамянутым агульнаадукацыйным ліцэі ў Пуньску і як прадмет у агульнаадукацыйным ліцэі ў Сэйнах. Агулам у павеце родную мову вывучаюць звыш 800 літоўскіх дзяцей. Варта тут падкрэсліць вялікую пашану літоўцаў, як дзяцей так і бацькоў, да роднай мовы. Вучні, як звычай, лічаць літоўскую мову адным з найбольш любімых прадметаў.

Літоўцы — народ гасцінны. Прабываючы ў іх вёсках, я вельмі часта сустракаўся са словамі «Свэйкас здраўгас» — вітай, дружа! Але аб гэтым, аб жыцці і звычаях літоўцаў — у наступным нумары.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

Сабраўшы вузкі круг кіруючых працаўнікоў абвера, Канарыс прачытаў ім загад і вытлумачыў, чым выклікана стварэнне «Сатурна». Вядома, ён не гаварыў, што «Сатурн» для абвера і для яго асабіста — нешта накшталт грамаадводу на выпадак навальніцы. Мэту «Сатурна» ён выклаў так:

— Галоўная мэта «Сатурна» — Масква. Мы нашпігуем яе разведвальнай і дыверсійнай агентурай, паможам гэтым нашай арміі, а ў адпаведны час рашуча ўдарым у спіну Крамлю... «Сатурн» — — гэта не проста група нашых працаўнікоў, набліжаных да фронта. «Сатурн» — гэта ўвесь наш абвер, толькі сканцэнтраваны на гэты час у найбольш выгадным для нас пункце. У «Сатурне» дакладна паўторыцца ўся наша структура. І калі на чале «Сатурна» я стаўлю найлепшых сваіх працаўнікоў Зомбаха і Мюлера, гэта зусім не значыць, быццам я хачу ўзваліць на іх усю справу па Расіі. Зусім не, больш таго, я ім не зайздрошчу, — Канарыс з усмешкай паглядзеў на Зомбаха, потым на Мюлера, — так, сябры, не зайздрошчу, бо ў вас я буду бачыць сябе, а вы ведаеце, як бязлітасна патрабавальны я да сябе і да сваёй працы. Дык ад гэтага часу і на найбліжэйшы час слава нашага абверу будзе ствараецца там.

Ідэю стварэння «Сатурна» горача падтрымалі начальнікі ўсіх аддзелаў абвера. О! Яны цудоўна разгадалі тайны сэнс стварэння «Сатурна» і былі шчыра ўдзячны свайму шэфу; яны разумелі, што дзеянне грамаадводу пашыраецца і н.. іх. Яныназывалі стварэнне «Сатурна» бліскучым ходам у

21

стылю стратэгіі і тактыкі самога фюрэра.

Але не такі быў Паўль Зомбах, які даўно славіўся сваім халодным аналітычным розумам. Ён быў адным з найбольш давераных людзей Канарыса.

Палкоўнік Зомбах пачаў выкладваць свае крытычныя меркаванні. Канарыс адчуў, што выступленне палкоўніка можа дыскрэдытаваць самую ідэю стварэння «Сатурна», і закрыў нараду.

Калі яны засталіся ўдваіх, Канарыс сказаў:

— Пагаварыць з вамі папярэдне ў мяне не было хвіліны.

— З Мюлерам гаварылі? — спытаў Зомбах.

— Не. Дарэчы, трэба вытлумачыць чаму я яго назначыў. Тое, што другім працаўніком «Сатурна» я зрабіў чалавека, які прыйшоў да нас з нетраў Гімлера, тактычна неабходна. Зайздрасць Гімлера да абвера проста прапарцыянальна нашым поспехам. Дык хай у нашых поспехах удзельнічае яго чалавек.

— Ён што, дагэтуль іх чалавек? — здзіviўся Зомбах. — Ён жа працуе з намі ўжо некалькі год.

—З гестапа ніхто не можа адыйсці зусім, — усміхнуўся Канарыс.

— Тады на якога чорта мне гэтыя вочы і вушы Гімлера? — раззлаваўся Зомбах.

— Каб вы рабілі як найменш памылак, якія цешылі б Гімлера, — працягваючы ўсміхацца, адказаў Канарыс. — Апрача таго, Мюлер — вялікі спецыяліст па дыверсіях, і ў гэтай якасці ён добра дапоўніць вас, паэта разведкі.

**(Працяг за тыдзень)**

22

# ЗБОР НА СФОС У ГАЙНАЎСКІМ ПАВЕЦЕ

Аналізуючы выкананне плана збору грошай на СФОС ад пачатку года да верасня, насоўваецца вывад, што ў апошнія два месяцы справа гэтая моцна направілася. Калі да гэтага часу Гайнаўскі павет займаў 17 месца ў краіне па выкананню плана збору на СФОС, дык за гэтыя два месяцы перасунуўся на 9 месца. Гадавы план збору выкананы на 74%, а сабрана сума 238.000 зл. Толькі сяляне Гайнаўскага павета сабралі на СФОС 114 тыс. зл. Дзякуючы агульным намаганням павятовага камітэта СФОС і прэзідыума ПНР у Гайнаўцы, а таксама ўсяго сфосаўскага актыву, сяляне толькі за два апошнія месяцы сабралі 31.167 зл. Асабліва значны ўклад за гэты час унеслі грамады Кленікі і Старое Корніна. Да выканання плану засталося яшчэ 28 тыс. зл.

Пагоршылася сітуацыя ў сектары рабочых і служачых, у якім за жнівень і верасень сабрана толькі 22.000 зл., а ўкласці яшчэ трэба 98.540 зл.

Прыватны сектар сабраў ужо 10.867 зл. (план — 15.000 зл.).

Найлепш справа выглядае ў сектары мерапрыемстваў, які даў складкі на суму 9.820 зл. Да выканання плану засталося тут толькі 180 зл. Выкананне плану на СФОС несумненна будзе заслугай сфосаўскага актыву Гайнаўскага павета.

**Юзэф Козак**
**Гайнаўка**

(Працяг са стар. 1)

# СЯЛЯНЕ СУЧАСНАСЦІ

— Згода, але трактары — гэта яшчэ не ўсё.

— Зразумела, — згаджаецца Мікола Міруць. — Разам з імі ў вёскі шырокай плынню пачалі ўлівацца другія, не менш патрэбныя сельгасмашыны. Напрыклад, абмалотачныя агрэгаты. Зараз нашыя гурткі маюць іх шэсць. Сёлета, напрыклад, да 6 верасня на тэрыторыі грамады поўнасцю закончаны абмалоты. Гэта дазволіла своечасова правесці пасевы і здаць дзяржаве нарыхтоўкі. Прыватныя ўласнікі не вытрымалі канкурэнцыі з сельгасгурткамі. Іх малацілкамі ніхто не патрабаваў карыстацца. Некалькі год таму назад селянін да паўзімы кляпаў па таку цэпам, чакаючы, пакуль прыватная малатарня завітае на яго панадворак.

Сёлета сельгасгурток у Багнюках першы раз купіў элеватарную капачку. Яна вельмі апраўдала сябе. Людзі бралі яе нарасхоп. Капаць ёю бульбу вельмі хутка, лёгка і беспараўнальна танней, чым наймаць капальнікаў.

Усё менш сялян у грамадзе сее ўручную. Гурткі маюць 9 сеялак. Апрача гэтага ў вёсках грамады сяляне зараз маюць каля 50 сеялак, якія з'яўляюцца супольнай уласнасцю звыш 100 гаспадароў.

— У будучым годзе, — кажа старшыня, — мы раз назаўсёды пакончым з традыцыйным севам. Усе пасевы ў нас будуць адбывацца толькі сеялкамі.

Механізацыя шпарка крочыць і на сенажаці. Раней сенакос цягнуўся тыдзень, а то і два. Зараз канчаецца на працягу аднаго—двух дзён. У гуртках ёсць трактарныя касілкі. Апрача гэтага сяляне маюць супольных 28 конных касілак. Гэта дало магчымасць механізаваць 70% сенакосных прац.

Усё шырэйшая механізацыя сельскай гаспадаркі дазваляе ліквідаваць сялянам празмерную колькасць коней. Напрыклад, на працягу першага паўгоддзя гэтага года іх зменшылася тут на 15 штук. Шпарчэй развіваецца жывёлагадоўля, павялічваюцца надоі малака.

Але, мабыць, найбольш важным дабрадзействам механізацыі з'яўляецца тое, што чалавек лягчэй працуе, мае больш вольнага часу. Зусім непрыпадкова ў апошніх гадах павялічылася колькасць чытачоў у вясковых бібліятэчных пунктах грамады Юшкаў Груд. Некаторыя нават пачалі завочна вучыцца ў Беластоцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме. Сяляне больш таксама прысвячаюць часу на паляпшанне сваіх дамоў, гаспадарчых будынкаў, панадворкаў, вуліц. Тут зараз рэдка знойдзеш старэнькую хату. Амаль зусім ліквідаваны саламяныя стрэхі. Усё часцей у вясковай хаце сустрэнеш радыёпрыёмнік, матацыкл, новую мэблю.

Значыць, прагрэс у сельскай гаспадарцы стварае магчымасці лепшага, больш культурнага і заможнага жыцця сялян.

**В. БОНДАР**



Скуп хатняй птушкі ў Кленіках.

Фота Ю. Рыбінскі

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# КРЫНІЦА ВІТАМІНАЎ

Восень. Шмат пладоў і гародніны. Яблыкі гніюць пад яблынямі. Цыбуля, цвятная капуста, морква — усё ляжыць у кучах. Колькі ўсяго гэтага? Ого, хопіць на многія месяцы! Так здаецца, здаецца штогод.

Пазней наступае расчараванне. Садавіна канчаецца ў лістападзе, гародніна, неадпаведна перахоўваемая, псуецца вельмі хутка. Не адзін селянін вымушаны хадзіць зімой да крамы па яблыкі ці цыбулю, якія там дастаўляе агародная спулдзельня.

У нашым ваяводстве штогод скупляецца 800 — 1000 тон капусты, 500—600 тон цыбулі, 700—800 тон морквы і іншая гародніна. У паўднёвай частцы ваяводства, не лічачы аколіц Беластока выдзяляецца ў гэтым Сямяціцкі павет, а ў апошні час значныя зрухі ёсць і ў Сакольскім павеце. Іменна сакольскія сяляне дастаўляюць каля 80% усёй цыбулі. Параўнаўча мала гародніны на продаж дае Бельскі павет.

Кантрактацыя і скуп — гэта адна справа. Вырошчванне гародніны патрабуе вялікага ўкладу працы, але дае добры даход, які, у пералічэнні на гектар, складае ў сярэднім 50—60 тыс. зл., а часам і 100 тыс. зл.

Другая справа — самое перахоўванне гародніны. Для гэтай мэты існуюць склепы, капцы, равы. Вельмі важна ступень вільготнасці. Значная частка гародніны патрабуе высокай вільготнасці паветра, даходзячай да 95% (капуста — каля 88%, а цыбуля і часнок — 70%). Тэмпература павінна быць каля 0°C, прычым нельга, каб тэмпература моцна вагалася.

**Капуста** мала рэагуе на паніжэнне тэмпературы. Збіраць капусту з агарода можна нават пры замаразках. Перахоўваем яе ў склепах або копцах. Галоўкі складаюць пластамі і прысыпаюць пяском. Наверх насыпаем зямлі. Калі надыходзяць маразы, накрываем капцы саломай і яшчэ раз абсыпаем зямлёй.

**Цыбуля.** Перахоўваем яе ў сухім, відным месцы пры тэмпературы каля —1, —2°C. Вельмі часта цыбуля перахоўваецца на паддашы.

**Морква** складаецца ў склепах або равах, прысыпаецца пяском. Зверху накрываецца зямлёй, саломай і яшчэ раз зямлёй.

**Цвятная капуста.** Перахоўваюцца познія гатункі. Выкопваем яе разам з зямлёй і садзім у відным склепе.

Гародніна павінна перахоўвацца як найдаўжэй. Гэта ж крыніца вітамінаў!

**Інж. М. Сухажэбрскі**

# Чараўнікі

Кажуць, на кожынскім хутары жыве рымар - чараўнік, які ўсё ведае, адгадае. (Рымар, бо калісьці быў рымаром). Аўсень яму імя. Іду да яго. Пазычыў пярсцёнак, каб на жанатага прыпадобніцца і нахаду прыдумаў гісторыю сабе такую: значыць, ажаніўся нядаўна, кахаю яе, моцна кахаю, а яна — не, не кахае — здраджвае, паганая!

Вось Аўсень. Прыхварэў ён на старасць і прытлох. Марыя, бойкая баба, адразу загаварыла пра мужавую слабасць. Выходзіць, невядома, ці захоча ён памагчы ў маёй бядзе, але яна пастараецца пераканаць яго, каб дапамог. Пагаворыць з ім. Так пачалася размова між імі: яна штурхнула яго ў правае плячо і падсунула пад нос засмолены псалтыр; штурхнула ў левае — Аўсень выцягнуў руку. Я падумаў, што ён просіць закурыць і пачаставаў яго папяросаю. Стары ўзяў «спорта», але аказалася, што ён шукае акуляраў на стале. Грабаючыся пальцамі ў балагане, усміхнуўся ў мой бок і адкрыў рот, каб штосьці сказаць. Марыя чым хутчэй ламянула Аўсеня па плячах — і ён мамантальна зацінуў вусны. Словам, у іх ударная сігналізацыя.

Чараўнік прыняўся мармытаць псаломы, а баба, многа не пераймаючыся святасцямі, запытала, ці маю пры сабе бутэлечку. Не, бутэлечкі я не меў. Пра тое, што здабываюць вернасць, даліваючы тайком у жончыну страву ваду, узятую з бруднага Аўсеневага вядра, я ўжо ведаў. А калі гэтай стравай была тлустая капуста на саланіне, тады жонку, як гавораць «пераймае на дзесятую сцяну», і няверная можа толькі круціцца каля хлеўчыка, а не з кавалерамі.

Марыя пацешыла мяне, што найлепш памагае вада, але раз я не маю ў што яе набраць, дык на пачатак атрымаю кавалачак хлеба. З ім трэба абкружыць паганую тры разы і балбатаць як найцішэй: «Круціся, вярціся — мяне дзяржыся».

Марыіны інструкцыі заглушыла Аўсенева мычанне пра маю жонку, што яна — гад, ненавіснік, дурніца. Я ледзь устрымаўся, каб не зарагатаць...

Спакойным голасам пытаю, колькі плаціць за параду? Старыя прыціхлі, у адзін голас застагналі, што ім плата непатрэбная: абы памагло, разлічымся за трэцім — дзесятым разам! Ой, хітруны?! Цягнуць чым пабольш, гэта раз. Падругое, ведаюць добра, што ад ахвяр падаткаў няма ды людзі больш даюць, калі сам не дамагаешся. Маюць практыку, факт!

Пакруціў я ў руках тоўсты партфель спецыяльна напханы ўсякімі паперамі, каб выдавалася, што багатага напаткалі, і кажу ім:

— Хацеў бы я даведацца, як гэта вы так лоўка адгадалі, што жонка мая — гад, ненавідзіць мяне і ў дурноту кідаецца?

Пакасілася Марыя яшчэ раз на партфелішча распухлае, адштурхнула ўбок соннага Аўсеня і давай вучыць мяне чараў. Зразумела, нябось, што варта мець такога вучня, з такім партфелем. Лекцыя пачалася. Марыя тыц палопаўшым пальцам на псалом, які пачынаецца ад літары «Г» ды тлумачыць: «Жонка становіцца для вас гадам». Літара «К» абазначае: яна тайна кахае вас. «Н» абазначае: ненавідзіць вас, але гэта праміне. Перад тыцканнем пальцам па псаломах важна адчуць — распытаць, чаго каму хочацца. Іменна, не чаго трэба, а чаго хочацца. Зразумелі?

На заканчэнне свайго візіта я выняў з партфеля дваццаць злотых. Марыя была яўна нездаволена. Выштурхнула наперад Аўсеня, а сама за яго спіною разбедавалася. Значыць, цяжкі яе лёс, даўно рвецца пакінуць гэтага няздару, але ён не пускае яе. Знае нейкія спосабы на бабы, што яна, Марыя, ніяк не ў сілах уцячы з гэтай смярдзючай хаткі ў сваё родныя Кнаразы.

Я прыпыніўся, не выйшаў. Гне, дзівачка, выразна ў адзін бок: значыць, раз яна не можа ўцячы ад такога старога, то што гаварыць пра ўцёкі маёй жонкі ад мяне, маладога, здаровага, прыстойнага, не ў крыўду сабе кажучы. Яна, нарэшце, паказвае мне яшчэ адзін, новенькі псалтыр. Раптам, паміж белых картак зачырванелася стозалатоўка. Тут я мігам зразумеў, пра што разыходзіцца чараўніковай жонцы і ўжо не затрымліваючыся, пайшоў у сенцы, на панадворак, на свежае паветра.

*

На небе свяціла сонца, ад Кожына ляцелі высока журавы. Над палямі стаяла прыгожая восень. Аднак у Кленіках мой добры настрой папсавала чараўніца Варка. Не, не яна, але тое, што пра яе нарасказвалі. У мясцовых людзей Варка траціць славу. Чатыры гады лечыць яе фельчар Краўчук, амаль штодзень дае ўколы — начыста спароў чараўніцу. Варчын хлапчук іншы раз уначы будзіць фельчара, бо Варка са сваім хворым сэрцам і вантробаю верыць толькі яму, Краўчуку. І слушна.

Аднак многія хворыя людзі, асабліва з далёкіх аколіц, вераць адной Варцы. Дзіўна, праўда?

З'яўленне хлапчука, празванага «Варчыным пагатовем», наводзіць смех на кленіцкіх цёт. Усё ж некаторыя з іх заступаюцца за чараўніцу; цвердзяць, што яна сама сябе не адчаруе. І гэта наймацней разгневала мяне. Рашыўся я адведаць яе і пачуць, што яна сама скажа пра сябе? Такім чынам — прышлося яшчэ раз нырнуць у душныя чараўніцкія закуткі. Варка якраз спала. Разбудзілі яе, сказалі, што прышоў хворы, у грудзях яму штосьці рэжа: гэта я са сваёй прыдуманай грудной хваробаю. Стаю. Яна ляжыць у пасцелі, упасеная, заплыўшая тлушчам. Эгэ, не пануе лакомства!

Чараўніца не траціць часу, працуе хутка. Шэпча. Абы хутчэй дастаць грошы!

Калі даходзіць да платы і развітання, пытаю яе:

— Вы хворая?

Варка маўчыць.

— Вы не прасілі лекара?

Варка маўчыць.

Пад ложкам бачу бутэлечкі з лякарствам. Яны відны, калі пахіліцца, нібы зашнураваць туфель. Схаваныя ад вачэй верных кліентаў.

Варка не прызналася, што яна лечыцца, што яна наогул хворая і што яна не верыць у ніякія там чары — соль, ваду, хлеб. Бо другіх чараўніц і чараўнікоў у аколіцы хоць адбаўляй — і ў Нарве, і ў Ступніках, і ў Даратынцы недалёкай старая Сіліванюк ёсць. Сын ганяе яе, не дае ашукоўваць людзей. Сіліванюк вымушана працаваць, так сказаць, у падполлі.

Варку няма каму паганяць.

**Кастусь ЯНКОЎСКІ**

# ПЛЁН СУПОЛЬНАЙ ПРАЦЫ

Сельскагаспадарчыя кааператывы Беласточчыны закончылі чарговы гаспадарчы год сваёй дзейнасці. Нягледзячы на летнюю засуху, дабіліся яны ў сярэднім па 18 цэнтнераў з кожнага гектара асноўных чатырох збожжавых культур і па 180 цэнтнераў бульбы. Дагэтуль такіх плёнаў спулдзельцы не мелі.

Высокай ўраджайнасцю можа пахваліцца спулдзельня прадукцыйная ў Дабрамілю, Бельскага павета. Пшаніца, напрыклад, у дабрамільцаў урадзіла па 27 цэнтнераў з гектара, а сярэдні ўраджай чатырох збожжавых культур дасягае тут 24-х цэнтнераў. Наўрад ці знойдзецца на Беласточчыне нейкі другі гаспадар, які мог бы пахваліцца такім ураджаем.

Зараз спулдзельцы Беластоцкага ваяводства рыхтуюцца да гадавога падзелу даходу сярод сваіх членаў. Першай спулдзельняй, якая правядзе гадавы разлік, будзе менавіта Дабраміль. Першая ў дасягненнях і першая ў падзеле даходу. (вр)

